Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem. ЦАНА НУМАРУ 20 ГР.

№ 16 Субота 18 Жніўня 1928 г. м. Вільня. Год I

# ГРАМАДЗЯНІН

БЕЛАРУСКАЙ НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ ДУМКІ

ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ

на 1 месяц 50 грашэй, на ...злоты. Заграніцу ўдвая даражэй. | Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Wilno, ul. Zawalna 6, m. 5. | АБВЕСТКІ ПА ЎМОВЕ

# Краёвае сьвята.

Сяньня адкрылася ў сэрцы Заходняе Беларусі — Вільні пад пратэктаратам сына нашае зямлі Маршалка Язэпа Пілсудскага Першая Пауночная Выстаўка — Кірмаш.

У кожным краі гэткія падзеі залічаюцца да найвялікшых культурна-гаспадарчых урачыстасьцяў, у якіх прыймаюць удзел акрамя прадстаўнікоў мейсцовай адміністрацыйнае ўлады, прамысловасьці, гандлю і прадстаўнікі заграмічнага культурна-гаспадарчага сьвету. Дзеля нашага-ж Краю гэнае сьвята мае яшчэ большае значэньне, як першае пасьля апошняе вайны, якая ў нашым Краі зацягнулася найпазьней і прычыніла найбольш матар'яльнае шкоды.

Патрэбна было надзвычайных матар'яльных і духовых высілкаў, каб, маючы з усходу і заходу суседзяў, з якімі да гэтае пары не наладжаны нармальныя гаспадарчыя адносіны, залячыць ваенныя раны і стварыць варункі магчымага культурна-гаспадарчага жыцьця. І цяпер толькі сьляпы ня можа ня заўважыць тых пазытыўных вынікаў, якія дасягнуты ў галіне гаспадарчае адбудовы зьнішчанага вайною нашага Краю, ня гледзячы на палітычна-гаспадарчыя перашкоды як унутранага гэтак і вонкавага характару.

Вось дзеля чаго адкрыўшаяся сяньня ў Вільні Пауночная Выстаўка выклікае надзвычайную зацікаўленасьць як з боку мейсцовага насельніцтва, гэтак сама і рэшты Дзяржавы і асабліва нашых суседзяў, як Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі, з якімі ўжо ўнармаваны гандлёва-гаспадарчыя зносіны. У ей, як у люстэрцы, адаб'ецца усё тое, што дасягнута высілкамі дзяржаўна-грамадзкае працы ў працягу няпоўных сямі гадоў у галіне сельскае гаспадаркі, вытворчае прамысловасьці, гандлю, адміністрацыі і культуры,

У гэтай урачыстасьці прынімаюць пасільны ўдзел усе чыннікі Краю незалежна ад сваіх нацыянальных ці палітычных пераконаньня, каму толькі дорага лепшая будучыная нашага Краю. На выстаўцы побач з дзяржаўнымі аддзеламі, як аддзелы Дзяржаўнага сьпірытусовага, тытунёвага і сярнічкавага манаполю будуць рэпрэзэнтаваны рожныя прыватныя Краёвыя фірмы як польскія, гэтак нямецкія і жыдоўскія. І толькі ня будуць мець свайго ўласнага аддзелу Беларусы, ня гледзячы на тое, што гэтае сьвята адбываецца на іхней зямлі ў іх роднай старадаўняй Вільні.

Але гэта не павінна нас устрымліваць ад удзелу ў гэтай урачыстасьці, якая без нашых адведзін утраціла бы свой агульнакраёвы характар і не дасягнула-бы накрэсьлянай мэты. Кожная выстаўка — кірмаш спаўняе агітацыйна-навуковыя мэты, і мы ў першую чаргу павінны дакладна азнаёміцца

шляхам агледзінаў выстаўкі з усімі дасяжэньнямі ў гаспадарчым жыцьці нашага Краю, каб ведаць, што мы маем, што патрэбна і чаго не хапае.

Дык ніхто з сьвядомых Беларусоў не павінен пашкадаваць некалькі залатовак ці вольных ад працы дзён на адведзіны Віленскае Выстаўкі-Кірмашу, што апрача прыемнае разрыўкі (будзе іграць сталы сымфанічны аркестр на тэрэні выстаўкі, ўсё будзе пекна аздоблена кветкамі, асьветляна электрыкай і г. д.) дасьць яшчэ і вялікую навучную карысьць. Калі не шкадуюць матар'яльных затратаў і ўжо прыбыла некалькі выцечак на Выстаўку з Пазнані, Усх. Галіцыі, цэнтру Польшчы, Латвіі, Фінляндыі і Эстоніі, дзе культура стаіць значна вышей, чым у нашым Краі, дык адмову ад адведзін Выстаўкі намі нічым ня можна было-бы вытлумачыць і выбачыць. Гэтым мы толькі ўяўнілі-бы свой поўны культурна-гаспадарчы занапад і нясьпеласьць, што ворагі нашага нацыянальнага адраджэньня выкарысталі-бы толькі на нашую некарысьць.

Дык абавязкам кожнага сьведамага Беларуса адведаць першую Віленскую Паўночную Выстаўку, якая распачалася сяньня і працягнецца да 9 верасьня!

# К адкрыцьцю Пауночнае Выстаукі у Вільні.

У зьвязку з новым укладам палітычнае сытуацыі на Ўсходе Эўропы, наступіўшым у выніку эўропэйскае і польска-расейскае вайны, на долю Вільні выпала роля гандлёва-транзытнага пасрэднік між Польшчаю, Радавай Расеяй, Нямеччынай, Літвою і Прыбалтыйскімі рэспублікамі. Толькі гэтыя магчымасьці пакуль ня могуць быць выкарыстаны ею у поўнай меры дзякуючы неўнармаванасьці палітычных адносіноў між зацікаўленымі дзяржавамі.

Адна толькі калея да Прыбалтыйскіх дзяржаваў праз Двінск ня можа з даволіць патрэбаў гандлёвых зносінаў між Польшчаю і гэтымі дзяржавмі. Вось дзеля чаго ў апошні час Латвія паважна паварушыла пытаньне аб адчыненьні даўнейшае Лібава—Роменскае калеі, якая дзякуючы неўнармаваным адносінам між Польшчаю і Літвою пакуль нячынна і хоча высунуць гэтае пытаньне на дзены парадак бліжэйшае сэсіі Лігі Народаў.

Гэтак сама нячынна пакуль і калея Вільня—Кашадары —Коўна —Вэржбалово, зьвязваючая Усх. Прусію з Літвою і Беларусіяй,

Дык зусім зразумела, што дзяржаўныя і гаспадарча-гандлёвыя колы Польшчы павінны былі зьвярнуць асаблівую ўвагу на Вільню, як на цэнтр культувна-гаспадарчага жыцьця Паўночна-Ўсходняе тэрыторыі Польшчы, якая ў будучыні павінна адыграць вельмі паважную ролю ў разьвіцьці гаспадарча-гандлёвых адносінаў на усходзе Эўропы.

У зьвязку з гэтым і нарадзілася думка заснаваць у Вільні Першы Паўночны Кірмаш, які ў будучыне мае перайсьці ў пэрыядычныя, як Усходні ва Львово і Заходні ў Пазнані.

Фармальна пачатак арганізацыі I Паўноч-

# Уражаньні з ральнічай экскурсіі да Пазнаншчыны і на Памор'е.

Тут я хачу падзяліцца ў кароткіх зарысах з тым, што бачыў і адчуў за час ральнічай экскурсіі, арганізаванай праз „Związek Kółek i Organizacyi rolniczych ziemi Wileńskiej". У кароткіх зарысах передаю таму, что за 14 дзён прышлося аб'ехаць можна сказаць добрую палову Польшчы, а за гэтакі кароткі час ня толькі што ня было магчымасьці дасканальна распытацца ды запісаць падробна аб кожным мейсцы, дзе праяжджалі, але нават аб тых мяйсцох, дзе затрымліваліся, прыходзілася натаваць чуць не стэнаграфічна. Затрымаўся дзе, каб паглядзець і запісаць, а табе крычаць: „хутчэй, а то застанешся"! За ўвесь час экскурсіі толькі і чутна было „хутчэй і хутчэй", бо мала часу. Але дзякуючы энэргіі і ўмеласьці кіраўніка экскурсіі п. С. Жукоўскага, хто хацеў, той сабраў шмат пажывы, як для працы ў ральніцтве, так і для самаразьвіцьця.

Перш-на-перш скажу пару слоў аб складзе экскурсіі. Усіх экскурсантаў было 24 асобы з паветаў: Маладэчанскага, Дзісьненскага, Віленска-Троцкаго і Вялейскага, па нацыянальнасьці палякі і беларусы. Было тут некалькі дробных рольнікаў, некалькі сярэдніх і нават большых, некалькі вучцялей, войтаў і іншага фаху. З 8 асоб ад павету Маладэчанскага ўсе былі дробныя рольнікі і на мой пагляд гэта заслуга п. Старасты і Выдзялу Павятовага, каторыя аб гэтым парупіліся. Бо дробныя рольнікі ў такі толькі спосаб (кошты падарожы і начлег аплачывалі часьцёва соймікі павятовыя і часьцёва „kółki rolnicze", а выжывеньне было сваё) і могуць пазнаёміцца з палепшанай гаспадаркай, тады як буйнейшыя рольнікі, вучцелі, войты і іншыя могуць даведацца аб гэтым самі: ці то з кніжак, ці то на свой кошт, ці ў які колечы іншы спосаб. Адзначыў гэта як факт варты ўвагі, бо найгорш у нас занепаўшы дробнае ральніцтва. Вось і ўсё, што да агульных зарысаў экскурсіі. А цяпер аб тым, што бачыў і адчуваў у працягу гэтых 14 дзён.

Выехалі з мейсц у нядзелю 1 ліпня. Мне

нага Кірмашу ў Вільні быў паложаны 17.XII.27 г., калі на паседжаньні, скліканым Віленскім Ваяводаю п. Рачкевічам былі створаны ганаровыя і запраўдныя ўлады Паўночнага Кірмашу і паўстаўшае пры ёй Ральніча-Прамысловае і Рэгіанальнае Выстаўкі, маючай на мэце паказаць гаспадарчы стан нашага Краю.

Пратэктарат над Паўночным Кірмашом прыняў на сябе Маршалак Пілсудзкі, які асабісто прыбыў сяньня на адкрыцьце. Ганаровае старшынства Кірмашу прыняў на сябе Віленскі Ваявода п. Рачкевіч і Старшынство Выканаўчага Камітэту — Прэзыдэнт м. Вільні п. Фолейёўскі.

Места Вільня, ідучы на спатканьне гэтаму карыснаму для Краю пачыну, аддала пад тэрэн Кірмашу найпякнейшы вугалок у Вільні — Бэрнадынскі і Батанічны сады, знаходзячыяся між Замковаю гарою і Трымя-Крыжамі на берагу р. Віленкі і асыгнаваў на гэтую мэту 100.000 зл. Рэшту сьродкаў на арганізацыю Кірмашу асыгнаваў урад.

Тэрэн Кірмашу ахапляе каля 100.000 квадр. мэтраў і складае цяпер адно цэлае, на якім выбудаваны галоўны выставовы павільён і каля 30 малых, раскіданых па ўсей плошчы. Усе малыя павільёны выбудаваны ўласнымі сьродкамі паасобных фірмаў, якія павінны былі заплаціць за ўдзеленае мейсца. Апрача гэтага прыстасаваны і улучаны да тэрэну гэтак званыя Бэрнадынскія муры, адрэмантаваныя пад кіраўніцтвам праф. мастацтва Рушчыца і вызначаныя пад аддзел мастацтва.

Як у галоўным павільёне, гэтак і ў малых выстаўлены на паказ экспонаты галоўнейшых гандлёва-прамысловых фірм, як краёвых, гэтак і з іншых частак Польшчы, якія рахуюць на экспорт сваіх тавараў да нашага Краю, а гэтак сама да Радавае Расеі і Прыбалтыйскіх дзяржаваў.

Спэцыяльны павільён (бышы летні тэатр) вызначаны пад выстаўку Дзяржаўнага Польскага манаполю—сьпіртовага, сярніковага і тытунёвага.

У Бэрнадынскім садзе выбудаваны вельмі пекны павільён з неабчосанае бярозы Дырэкцыі Дзяржаўных Лясоў, у якім будуць паказаны найцікаўшыя экспонаты з лясной гаспадаркі.

Ральніча-прамысловая выстаўка мае аддзелы: агульна-ральчы, які месьціцца у гмаху Гандлёва-Прамысловай Школы, прыстасаваным для гэтае мэты, аддзел сельска-гаспадарчых машынаў на адкрытым паветры ў парку Жэлігоўскага і аддзел жывёлы — коняў, короваў, быкоў, авечак, сьвіней, птушак і г. д. У гэты аддзел прысланы экспонаты на'т з Латвіі, Эстоніі і Фінляндыі.

Ёсьць некалькі павільёнаў фірмаў будаўляных, затым агародніцтва, садаводцтва і г. д.

Рэгіанальная выстаўка складаецца з экспонатаў пляпаў, чарцяжоў, статыстычных табліцаў, адноснае літэратуры, народнага мастацтва з Віленскага і Нэваградзкага ваяводзтваў.

На выстаўцы ёсьць таксама аддзел этнаграфічны, арганізаваны Т-вам Народнаго Прамыслу, паказ кніжкі, ваяводзкія ўрады — адміністрацыйны, грамадзкае апекі, здароўя, прамысловасьці, публічнае працы, вадзяныя шляхі, Куратарыўму Школьнага Вокругу, Дырэкцыі Калеі, Пошты, Тэлеграфу, Акружнага Земскі Ўраду Паказана будзе праца Цзяржаўнага Рольнага Банку і Гаспадаркі Краёвай.

Асобны аддзел вызначаны пад экспонаты вытворчасьці вязьняў Лукішскае турмы.

Шмат фірмам ня ўдалося прыняць удзелу ў выстаўцы дзеля нястачы мейсца у павільёнах ці пад будову новых павільёнаў.

Агульны абраз Кірмашу упекняюць фантаны, лебедзі ў сажаўцы, жывая рыба у спэцыяльных басэйнах і шмат кветкаў, а увечары багатая сьветавая ілюмінацыя.

---

прышлося ехаць з Маладэчна. Ехалі днём і можна было бачыць той мізэрны ураджай, дзе гаспадар можа не зьбяре нават насеньня. І так больш-менш аж да Вільні. У Вільні кожны атрымаў білет экскурсанта і пад вечар 2 ліпня выехалі праз Ландварова-Горадню да Варшавы. Да ночы, пакуль можна было бачыць, заўважыў хіба найгоршы ўраджай на ўсей Польшчы, бо спатыкаюцца нават такія, што, як кажуць — „колас ад коласа ня чуваць чалавечага голаса". Але аднак трэба сказаць, што і грунт там хіба найгоршы. Ужо раніцай другога дня каля Варшавы можна было відзець і лепшыя ўраджаі і лепшую вырабку зямлі.

Увесь дзень 3 ліпня аглядалі Варшаву. З цікавасьцяў Варшавы, каторыя прышлося бачыць, трэба адзначыць: касьцёл св. Яна, музэй, карцінную галярэю, салю соймавую, Саскі сад, пляц і тунэль. Касьцёл св. Яна стаіць на Старым Месьце і выбудаваны здаецца ў 14 ці 15 веку. Калісьці быў злучаны з Замкам Каралеўскім падзямельлем, у склепах каторага цяпер знаходзяцца астанкі І Прэзыдэнта Польшчы Г. Нарутовіча, Г. Сенкевіча і іншых выдатных асобаў. Музэй з браку часу аглядалі пераходам, але можна сказаць, што там сабрана ўсё, што толькі магчыма. З захватам можна зазначыць аб багатстве гэтага закладу. Тут можна бачыць высокую ступень рэзьбярства даўнейшага, вышываньня, ткацтва і інш., што хіба і ў наш век ніхто ня зробе так артыстычна і ўмела. Ёсьць речы, каторыя не паддаюцца ацэнцы. Сабрана тут ад самай маленькай і таннай і найстарэйшай рэчы да самай большай, даражэйшай і навейшай.

Тое самое можна сказаць і аб карціннай галярэі, дзе выстаўлены карціны найлепшых і дрэўнейшых мастакоў. Будынак соймавы варт увагі, як будынак, дзе творыцца і робіцца нашае жыцьцё. З агляданьня Саскага саду і пляцу трэба адзначыць „Гроб Невядомага Жаўнера", дзе гарыць незагасаемы агонь, дзе складаюць ахвяры на чэсьць невядомага жаўнера, на каторы і мы зложылі як ахвяру букет з усімі цэрэмоніямі. Наагул з агляданьня Варшавы, дзякуючы „Zjednoczeniu Związków i Organizacyj rolniczych", дзе мы мелі і начлег і гасьціннасьць,

У працягу ўсяе выстаўкі буцзе іграць сымфанічны аркестр.

Урачыстасьць адкрыцьця Кірмашу адбудзецца сяньня. Выстаўка працягнуцца да 9 верасьня.

Ужо да адкрыцьця прыехала шмат вытечак з Варшавы, Пазнані, Кракава, Львова, Латвіі і Фынляндыі.

Пры адведзінах Выстаўкі экскурсіямі прадастаўляюцца значныя льготы і палёгкі.

# Маршалак Язэп Пілсудзкі на зьезьдзе легіяністаў у Вільні.

У 11 жніўня увечары прыехаў да Вільны ў зьвязку з VII зьедам легіяністаў з усяе Польшчы Маршалак Я. Пілсудзкі. На станцыі Маршалка спатыкалі Віленскі Ваявода п. Рачкевіч, Наваградзкі Ваявода п. Бечковіч, Гэнэралытэт, Начальнік Безьпячэнства Віленскаго Ваяводзтва п. Кіртыкліс, Прэзыдэнт места п. Фолейёўскі, некалькі паслоў з Віленскаго ваяводзтва і пэраг штабовых ахвіцэраў. Пасьля прыняцьця рапарту ад ганаровай роты на пэроне станцыі пад гукі ваеннага аркэстру Маршалак з жонкаю і дзьвемя дачкамі паехаў на памешканьне свайго брата пасла Яна Пілсудзкага на Партовай вуліцы.

На зьезд легіяністаў прыбылі з Варшавы віцэ-міністр ваенны гэн. Канаржэўскі і некалькі гэнэралаў. Затым прыбыла шмат прадстаўнікоў загранічнае прэсы—амэрыканскае, англійскае, французскае, нямецкае і на‘т савецкае. Запраўднай сэнсацыяй быў прыезд літоўскіх журналістаў на аўтамабілі проста праз польска-літоўскую граніцу без усялякіх папярэджаньняў. Сындыкат польскіх журналістаў і ваяводзкія ўлады прынялі іх вельмі гасьцінна, прадаставіўшы магчымасьць прыняцьця ўдзелу ўва ўсіх легіёнавых урачыстасьцях.

На зьезд з‘ехалася каля 6-7,000 легіяністаў з усяе Польшчы. У першы дзень зьезду ў нядзелю 12 жніўня а 10 гадзіні раніцы адбылося ўрачыстае набажэнства ў катадральным касьцеле у прысутнасьці Маршалка, п. Ваяводы і прадстаўнікоў ваенных і цывільных уладаў.

Пасьля асьвянчэньня штандару Związku легіяністаў на Катэдральным пляцу ўсе скіраваліся на чале з Маршалкам на Замковую гару, дзе быў паложаны вянок Невядомаму Жаўнэру.

А першай гадзіне адбылася ўрачыстая акадэмія ў Меставай салі, на якой былі прысутным: Маршалак з жонкаю, міністры юстыцыі Мейштовіч, ральніцтва—Станевіч, публічных работ — Морачэўскі, пошты — Медзінскі, гандлю—Квяткоўскі, асьветы—Сьвітальскі, п. Ваявода, гэнэралітэт і прадстаўнікі местовых уладаў. З прывітальнымі прамовамі выступалі Ваявода п. Рачкевіч, Прэзыдэнт места, біскуп Бандурскі, гэн. Рыдз-Сьміглы і іншыя. У канцы ухвалена была выслаць прывітальную дэпэшу Прэзыдэнту Рэспублікі.

А 6 г. увечары ў тэатры „Reduta“ на Вял. Пагулянцы Маршалак сказаў прамову, якую чакалі з вялікім зацікаўленьнем ня толькі ўся Вільня ці Польшча, але на‘т і ўся Эўропа. Прыехаў на‘т з Жэнэвы з бюра Лігі Народаў п,

---

вынясьлі добрае ўражаньне як аб самым месьце, так і аб люднасьці.

4 ліпня а гадзіне 7 выяжджаем з Варшавы да павятовага места Ловіч. З вокнаў вагону можна было бачыць, што ўраджай у тэй мяйсцовасьці жыта сярэдні, ярыны горшы, а бульбы дрэнны. Шмат сеюць буракоў і моркавы. Грунт нізкі і роўны, мейсцамі дрэнаваны, а мейсцамі кладуць цяпер нават па засевах. Ужо чуць не ад Варшавы пачынаецца мноства садоў, пераважна цярэшнявых. У Ловічу і акалічнасьці яго трэба адзначыць школу ральнічую і вёску Бохэнь. З надзвычайных рэчаў і ўлепшаньняў у гаспадарцы школы ральнічай трэба адзначыць: гадаўляную, рольную і садаводства. Першы раз у жыцьці тут прышлося мне пабачыць кароў галандскай расы жывой вагі каля 40 пудоў. Такая карова дае ў год каля 5000 літраў малака, а па ацяленьні да 35 літраў у дзень. 11 месячнае цялё важыць каля 19—20 пудоў, 6 месячнае—15 п. З месячнае—8 пудоў і па парадженьні—да 3 пудоў, і свіней-матак каля 18—19 пудоў. У гаспадарцы рольнай тут прышлося пабачыць дзівы, аб каторых чытаў але, ня верыў — Жыта, пасеяна ў так званы спосаб „лёсова“, г. зн. па каношыне мелкая ворка, баранаваньне, спражыпаваньне, баранаваньне, ворка з паглыбленьнем (у баразьце ня выкідаецца, а ўзварушываецца зямля); угнаеньне: 21 пуд суперфасфату, 21 пуд солі паташовай, па 16 днях сяўба 1 пуд 20 фунтаў жыта і перад замарозкамі 8 пудоў салітры чылійскай на дзесяціну, а ўраджай жыта як лес, каласы па пальцу таўсьціні, па 80 зёрнаў у каждым і кожнае калява дало па штук 20—25 падсады. Пшаніца і буракі па ураджайнасьці таксама хіба ня ўступяць. Грунт тут нізкі, але здрэнаваны. Усё пачыньне ральнічае навейшых сыстэмаў, толькі надта не практычныя граблі, бо таўстыя і цяжкія. З гаспадаркі садаводзкай варта ўвагі вялізная школа (пітомнік), разбітая на 10 дзесяцінах, з каторай прадаюць што год больш за 3000 штук дрэвак.

Вёска Бохэнь — гэта невялічкая вёсачка, раскіданая на нізіннай раўніне. Дамы дзеравянныя (таўсьціня сьцяны цалі 3—4), крытыя саломай. Кожны гаспадар мае два пакоі і кухню, але ў памешканьнях цёмна, бо вокны

Жорне дэ-Орлік. Усе чакалі, што Маршалак у сваей прамове даткнецца самых балючых палітычных пытаньняў, галоўным чынам польска-літоўскага канфлікту, зьмены Канстытуцыі, сойму і г. д. Але прадстаўнікі заграічнае прэсы, чакаўшыя сэнсацыяў, былі вельмі разчараваныя, калі Маршалак заместа палітычнае прамовы у працягу гадзіны вёў лірычную гутарку з жаўнерскага жыцьця легіяністаў. У сваей гутарцы Маршалак зьвязаў дзіця свае—Вільню з другім дзіцем — Легіёнамі.

Урачыстасьці 12 жніўня закончыліся раўтам у рэпрэзэнтацыйных салях з удзелам міністраў і вышэйшых прадстаўнікоў ваенных і цывільных уладаў.

На другі дзень зьезду адбыліся выцечкі да Вэрак на параходах і да Трок. Увечары 13 жніўня ўдзельнікі зьезду пачалі раз'яжджацца з Вільні.

У панядзелак а 10 гадзіні 30 м. увечары Маршалак выехаў хуткім цягнікам да Варшавы. На станцыі былі прысутнымі міністр пошты Медзінскі, які гэтак сама выехаў да Варшавы, Міністр Станевіч, Ваявода п. Рачкевіч, камандзір О. К. Літвіновіч, прэзыдэнт места Фолейеўскі і прадстаўнікі афіцэрскага корпусу.

# Тутэйшая хроніка.

— **Адмова ўдзелу ў Выстаўцы.** „Доля Працы" паведамляе, што Беларускае Навуковае Т-ва, з прычын, як прынцыповых, гэтак і фінансавых пастанавіла ня браць удзелу у Паўночнай Выстаўцы, якая адбудзецца 18 жніўня у Вільні, аб чым даводзіцца да ведама ўсіх, зьбіраўшых экспонаты. Усе, хто сабраў тыя ці іншыя рэчы, могуць здаць іх у музей імя Ів. Луцкевіча на варунках, якія-б былі пры узяньці удзелу ў выстаўцы.

— **Аб Самаўрадавым Камітэце.** Да нас даходзяць чуткі, што быццам Радны Віленскага Магістрату п. Кузьма Крук, які у свой час з групай іншых прадстаўнікоў праці Паўлюкевічаўскага зьезду радных, у сучасны момэнт носіцца з думкаю увайсьці ў склад Самаўрадавага Камітэту з тым, каб перарганізаваць яго у зусім апалітычны камітэт і працу пастаўіць на больш рэальны грунт, зьвязаўшыся фактычна з гміннымі Радамі, маючымі беларускую перавагу.

Думка гэтая ня новая, і мы ўжо пісалі аб гэтым у „Грамадзяніне" № 10, бо сапраўды сучаснасьць патрабуе актыўнае дзейнасьці гэтага зусім замершага Камітэту і ўсялякі пачын аб зварушэньні гэтае справы можна толькі вітаць, а тым больш, што на грунце самаўрадавым, дзе ўся праца ідзе толькі аб дабрабыце свайго краю, нават пажадана супольнасьць працы рожных палітычных кірункаў.

— **Беларускія хатнія вырабы на выстаўцы ўДарэве.** 5 жніўня ў Дарэве адчынілася першая у Баранавіцкім павеце выстаўка народных вырабаў, на якой было сабрана больш тысячы экспанатаў беларускіх сялянскіх вырабаў. Асаблівую ўвагу зьвярталі на сабе тры беларускія жаночыя вопраткі, якія беларускія жанчыны насілі 200 гадоў назад. Камітэт выстаўкі пастанавіў выслаць гэтыя вопраткі на

---

толькі з аднаго боку — ад вуліцы. Уся вёска патануўшая ў мностве садоў. І дзіўная рэч: ані адзін сад не абгароджаны; хоць ужо цярэшні і пасьпелі, але ніхто не зачэпе апроч самога гаспадара.

У большасьці грунт здрэнаваны і па ўраджайнасьці адразу кідаецца ў вочы вялікая розьніца ад неадрэнаванага. Ураджай наагул добры, бо ўжываюць шмат штучных гноеў. Асаблівай увагі заслужывае тут 18 **дзесяцін-нае гаспадарства Яна Ўрбанка.** Ён мае 4 коней, 7 кароў, штукі 4 ялавізны, каля 10 сівіней і ін. Скаціну трымае бяз мала ўсё лета ў хляве і корміць па правілам гадоўлянай навукі. Пры гэтым ужывае на корм гэтак званую „кішонку", каторая прыгатаўляецца ў наступны спосаб: падвялыя лісты буракоў і выжымкі ад буракоў складаюцца ў яму, або ў капцы і або перасыпаюцца сольлю, або не; затым моцна ўтаптываецца і прыкрываецца зямлёй. Гэтак прыгатаваны капец можа прастаяць да 2—3 гадоў і лічыцца надта добрым кормам. Пры такім кармленьні карова дае да 30 літраў малака ў дзень. Гноеў штучных ужывае паводле дасьведчэньня і, маючы інструманту рольнага столькі, што хіба ў вас ня маюць столькі некаторыя маёнткі, зямлю ўрабляе надта добра і ўжо пачаў практыкаваць спосабу „лёсова". Усяго гэтага Урбанак дайшоў з уласнай практыкі, за што і атрымліваў неаднакратна пахвалы і награды.

5 ліпня выяжджаем чыгункай да вёскі Ліскова. Вёска гэта знаходзіцца ў 28—30 кілямэтрах ад станцыі і мае каля 80 гаспадароў. Дамы бяз мала ўсе мураваныя, двухпавярхія, крытая дахоўкай, дзеля чаго вёска мае выгляд маленькага места. У сярэднім гаспадары маюць па 5—7 дзесяцін зямлі і дзіўным адразу здаецца, у які спосаб дайшлі яны да гэтага стану. Але дзіўнаго нічога няма, бо жывуць яны кааператыўным парадкам. 15 гадоў назад з вялікімі высілкамі залажылі тут кааператыўную крамку, таргаваўшы ў дзень ледве-ледве пару руб. і па словах залажыцеля гэтай крамкі, ксяндза-пралата Бжозінскага, у пачатку крамка служыла больш мейсцам зборкі, чым таргоулі.

Паўночную Выстаўку ў Вільні. Цікавымі былі таксама сукенкі двух беларускіх дзяўчат, льняныя вырабы, як хусткі, абрусы, ручнікі і інш. сялянскія вырабы. З вёсак, якія прыслалі на выстаўку свае экспонаты, на першае мейсца высунуліся вёскі: Пранчакі, Зарытава і Папесесе.

— **Ральнічая выстаўка ў Несьвіжы.** 22, 23 і 24 верасьня у Несьвіжы адбудзецца ральнічая выстаўка.

— **Паседжаньнэ Баранавіцкага паветовага Сойміку.** На апошнім паседжаньні Баранавіцкага паветовага Сойміку пад старшынством старасты А. Кульвеца адбыліся выбары сябры да Наваградзкае ваяводзкае Рады Былі пастаўлены дзьве кандыдатуры: бурмістра м. Баранавічы Пюро-Дэмбінскага і ад беларусаў гр. Апанасюка. У выніку тайнага галасаваньня бурмістр атрымаў 16 галасоў, а гр. Апанасюк 8 галасоў, дзеля таго выбраны гр. Пюра-Дембінскі. На гэтым-жа паседжаньні Соймік пастанавіў пазычыць у Банку Краёвае Гаспадаркі 200.000 зал. на будову новых шляхоў і мастоў і у Дзяржаўным Ральнічым банку 500 тысячаў зал. на пасеўную акцыю.

— **Грамадзкі сход у вёсцы Астраў Старавейскай гміны.** 7 жніўня у вёсцы Астраў адбыўся грамадзкі сход пры удзелі 200 асобаў. На сход прыехаў таксама Слонімскі Староста П. Гепшель і мейсцовы войт. Пасьля спрэчак на прапазыку селяніна Мазоля прынята пастанова злажыць усім гаспадаром па 2 залатых ад падзелу на наём памешканьня пад 2-х клясовую школу, у якой выкладовай мовай мае быць мова беларуская (увядзеньне беларускае мовы ужо зацьверджана некалькімі уладамі). Апрача гэтага пастаноўлена: пабудаваць у вёсцы народны дом і зьвярнуцца да паветовага аддзелу з просьбай прыслаць тэхніка для мэліарацыі лугоў.

— **Беларуская мова у Наваградзім магістраце.** На апошнім паседжаньні Наваградзкай местовае Рады была прынята да ведама пастанова Наваградзкага Ваяводы, які зацьвердзіў істнуючую ужо пастанову Рады аб тым, каб абвешчаньні Магістрату пісаліся ў двух мовах—польскай і беларускай. Адначасна Ваявода не зацьвердзіў пастановы аб ўвядзеньні таксама жыдоўскай мовы з прычыны атсутнасьці адпаведнага закону.

— **Выбары дэлегата да ваяводзкае рады ад слонімскага Сойміку.** На апошнім паседжаньні Слонімскага пав. сойміку адбыліся выбары дэлегата да ваяводзкае рады. У выніку выбараў абраны быў гр. Юшкевіч. Беларускія радныя, ня бачучы магчымасьці правясьці свайго кандыдата, устрымаліся ад галасаваньня. Адначасна соймік пастанавіў прыняць удзел у коштах будовы чыгуначнай лініі Маладэчна — Слонім.

— **Адбудова школаў ў Слонімшчыне.** Гмінныя ўрады у Жыравіцах, Бытоне, Чемеры, Дзеватковічах і Кастравічах атрымалі з Банку Краёвае Гаспадаркі і Паветовага аддзелу пазыкі агульным ліку 44 тысячы зал. на будову новых і рэмонт істнуючых школьных будынкаў.

— **Будова шляхоў у Лідчыне.** Міністэрства Грамадзкіх работаў згадзілася пазычыць Лідзкалу паветоваму сойміку 33 тысячы залатых на пабудову даезду да парому ў Гудэлях на шляху Ліда—Радун і на рэмонт паветовае дарогі Ганчары—Аграднікі—Наваградак.

— **Направа дарогаў у Маладэчанскім павеце.** Дзякуючы Маладэчанскаму старасьце і інжынеру Дембскаму направа дарогаў ў усім Маладэчанскім павеце хуткім тэмпам ідзе ўпе-

---

І вось цяпер можна з падзіўленьнем відзець, што можа зрабіць каапэрацыя пры сумленнай і ўпартай працы. Калісьці маленькая крамка — цяпер таргуе на 1000 зл. у дзень. Паравая каапэратыўная іх цагельня вырабляе да 20,000 штук цэглы і некалькі тысяч даховак у дзень. Паравая малачарня, перарабляючая па 5,000 літраў малака ў дзень; бойня, некалькі дамоў аддадзеных у арэнду пад школы — гадаўляную, ральнічую і інш. установам; пекарня, да каторай кожны можа прынясьці муку і атрымаць кожны дзень свежы хлеб з 10% прыпёкам і іншае — ўсё гэта разам прыносе вялікую даходнасьць гэтай вёсцы-каапэратыву. Рахунковасьць усіх спраў вядзе банк, дзе апрача таго кожны можа атрымаць на выгадных варунках пазычку. Як бы ў нагараду гэтай вёсцы тут адчынена каля 7 школ: ральнічая, гадаўляна рамесьлянна-прамысловая, гаспадынь вясковых, 7 клясавая пачаткавая і інш. Апрача таго ў вёсцы знаходзіцца прытулак на 300 дзяцей, куды прымаюцца сіроты ад 4 гадоў і выховываюцца да 18, дзе і вывучываюць іх розным ремёслам.

Дзякуючы вялікаму ўжываньню гноеў штучных (праз іх краму праходзе каля 20—25 вагонаў гнаёў у год), збожжа надзвычайнае і наагул усё тут да здзіўленьня.

Вось коратка тое, што зрабіла каапэрацыя ў вёсцы Ліскова. Вось коратка тое, што можа зрабіць супольная праца, да чаго можна дайсьці праз каапэрацыю. Вось тое, да чаго даводзіць праца і энэргія аднаго чалавека, высілкамі каторага ўсё было начата і кіруецца да гэтага часу.

6 ліпня на ўласным самаходзе вёскі Ліскова выяжджаем да ст. Опатівэк і адтуль праз Остроў да ст. Бядкі — ўжо на другі бок былой нямецкай граніцы. Хоць і на гэтым баку граніцы Пазнаншчыны ўраджаі добрыя, алэ з пераездам — адразу ўсё меняецца: ураджай яшчэ лепшы, будынкі мураваныя, дарогі шаша абсаджаныя пераважна фруктовымі дрэвамі,—адным словам усё мяняецца. На ст. Бядкі чакалі нас гаспадары, да каторых мы мелі заехаць. Былі тут уласьнікі як большай так і меншай маёмасьці, з чаго можна было судзіць, як пасьля і аказалася, аб іх супольнай працы ў га-

рад. Пакончыўшы з некалькімі ваяводзкімі і павятовымі дарогамі, цяпер приступляна да брукаваньня вясковых вуліц.

У гміне Ракаўскай брукуецца 18 вёсак, у м-ку Краснае над Ушай канчаецца брукаваньне рынку, у гміне Радашковіцкай пазасталася адбрукаваць толькі 3 вёскі і толькі ў Палачанскай гміне дзякуючы недбальству войта яшчэ амаль што нічога ня зроблянa. Усе работы па папраўцы вяцуцца пры энэргічнай дапамозе Маладэчанскага Сойміку.

**— Мэліарацыйныя крэдыты.** У „Dz. Ust." ад 28 чэрвеня 1928 г. зьмешчаны загад аб 7% мэліарацыйных аблігацыях Дзяржаўнага Рольнага Банку, які стварыў спэцыяльны мэліарацыйны аддзел па справам мэліарацыйнага крэдыту. Мэліарацыйныя пазычкі ўжо пачаліся выдавацца і ў ліпню выдана на агульную суму 19,322,800 зл. для 131 водных суполак і 2 індывідуальных асобаў на мэліарацыю 25,475 гэктараў грунту.

**— Прыродная працоўня у Баранавічах.** Магістрат м. Баранавічы асыгнаваў 4 тысячы зал. на будову школьна — прыроднае працоўні у Баранавічах. Працоўня мае быць арганізавана на ўзор Віленскай, якая паўстала дзякуючы працы б. інспэктара Віленскай Беларускай гімназіі грам. Гмахоўскага.

**— Вялізарны пажар у Нясьвіжскім павеце.** Некалькі дзён назад з прычыны неасьцярожнага абыходжаньня з агнём ў вёсцы Круты Бераг Несьвіжскага пав. паўстаў пажар, ў выніку якога згарэла 16 хатаў і 38 гаспадарчых будынкаў са збожжам. Страты перавышаюць 100 тысячаў зал.

**— Выкрыцьце банды падпалячаў у Лідчыне.** У працягу кароткага часу у Лідчыне пала ахвяраю пажараў каля 20 вёсак і часткова 3 мястэчкі — Ворапаева, Эйшышкі і Радунь. Цікава тое, што у той час, як няшчасныя жыхары гэтых вёсак і мястэчак займаліся ратаваньнем свайго скарбу, здараліся частыя кражы. Гэта наводзіла на думку, што пажары зьяўляюцца чынам нейкай добра зарганізаванае банды, якая умысна падпаляе вёскі і мястэчкі, каб у часе агульнай сумяціцы займацца грабяжом.

Пасьля доўгіх разыскаў удалося раскрыць гэтую банду, на чале якой стаіць нейкі Леўковіч, таварышы якога ужо па асуду даразнага суда растрэляны, а ён свабодна гуляў на волі. Ён арыштованы, а з ім разам яго бліжэйшыя супрацоўнікі Ёсэль Крупскі і Лейба Дваржынскі.

Пасьля арышту гэтай кумпаніі воранаўскі рабін атрымаў ад невядомай арганізацый „жалезная рука" некалькі лістоў з пагрозамі, што калі ён ня адмовіцца ад пададзеных паказаньняў сьледственным уладам, дык м. Воранова будзе спалена, а яго жыхары вымардаваны. Усе жыхары Варанова былі у паніцы. У толькі заспакоіліся пасьля таго, як паліцыя уяўніла, што гэтыя лісты пісалі кроўныя арыштаваных.

У часе дапросу арыштаваныя прызналіся у тым, што гэта іх банда падпаляла і выдалі яшчэ цэлы шэраг сваіх супольнікаў, раскіданых па усяму павету. Да гэтагае пары арыштаваны і пасаджаны у Лідзкай турме наступныя бандыты— падпалячы: Зыгмунд Боцэвіч і Адольф Тыцынаў з Эйшышак, Міхал Бальбо з Пушман, Жылінскі з Цэмель, Людвік Шумаоўскі з Белунца і уласьнік 2 фальваркаў у Беняконскай гміне — Адольф Сухоцкі.

**— Уступныя Экзамены, да Віленскае Бел. Гімназіі.** Уступныя экзамены да віленскае Бел. Гімназіі пачнуцца 30 жніўня, пера-

---

ліне ральніцтва і аб іх гасьціннасьці. Найперш зайшлі мы да Пшыбыліка Валентага — гаспадара, маючага 25 дзесяцін зямлі, 4 коней, 10 кароў, 4 цялят, больш 10 сьвіней і інш. Ураджай у яго надзвычайны, асабліва жыта па мешачіне, дзе высеяна кала 25 пудоў тамасаўкі на дзесяціну. Першы раз на жыцьці я пабачыў тут ячмень азімы, ураджай катораго таксама добры. Дзеля таго, што з усяго збожжа ячмень гэты пасьпяе найраней, дык, наскольні праўда, забяспечаны ад налёту птушак у наступны спосаб: на 3 пуды ячменю перад высевам, уліта 1 літр газы, перамешана і пасеяна і, па словах гаспадара, вынікі дасканальныя. На панадворку ўсіх нас здзівіла лічба і разнароднасьць інструмантаў рольных і машынаў.

Па агледзінах і абедзе выехалі мы да маёнтку Смошэц п. Цыбульскага ў Кратошынскім павеце. Дзеля таго, што мелі мы мала часу, поле гэтага маёнтку аглядалі праездам на конях і конкай, праведзянай па ўсім полі. Ураджай усяго надзвычаўны, асабліва буракоў і аўсу. Усё збожжа мае выгляд быццам падабрана каліва да каліва і пасаджана, ані кусьціка лепшага ці горшага, быццам яно астрыжана. Але даведаўшыся аб тым угнаеньні, якое паложана (напр. пад авёс па бураках на дзесяціну высеяна $6^1/_4$ пуд. солі паташовай, 40%, $12^1/_2$ пуд. тамасоўкі і 10 азатняку) і ўвідзеўшы той інтрумант рольны, якім гэта зямля ўрабляецца, — усё гэта робіцца ня так ужо дзіўным і надзвычайным, а ўсё гэта толькі вынікі правільнай і ўмелай гаспадаркі. Гадаўляная гаспадарка пастаўлена таксама добра, а корм скаціны пераважна „кішонкай", дзякуючы чаму каровы даюць па 27—30 літраў малака ўдзень. Работніка аплачвае добра і па славам самога гаспадара, плаце больш 10 злотаў з дзесяціны на застрахаваньне рабочых.

Вечарам п. Цыбульскі гасьцінна прыняў нас у сваім памешканьні і выдаў добрую вячэру, пасьля чаго выехалі да Кратошына, а адтуль 7 кілім. да маёнтку Стары Кабылін, пав. Кратошынскага. Прыняў нас надта радушна гаспадар маёнтку п. маёр, прозвішча катораго забыўся, бо тады не запісаў, як не запісаў і з агледзін яго гаспадаркі нічога. Ведама, што зрабіў кепска, але ён вёў гутарку аб гаспадар-

экзаменоўкі 1 і 3 верасьня, а заняткі 4 верасьня г. г.

**— Новы рэктар праваслаўнай духоўнай сэмінарыі.** Рэктар Віленскае Праваслаўнае Сэмінарыі Архімандрыт Тобіньскі застаўся перанесяным на Рэктара Віленскае Праваслаўнае Сэмінарыі, а Рэктар Віленскае Сэмінарыі архім. Тучемскі на ягонае мейсца.

**— На міжнародную студэнскую канфэрэнцыю,** якая адбудзецца у гэтым месяцы ў Парыжу, ад Зах. Беларусі будзе высланы адзін прадстаўнік. Беларускі Пасольскі Клюб на падарожныя выдаткі дэлегата асыгнаваў 200 зл. Ня шкодзіла-бы пасьледаваць гэтаму прыкладу і іншым беларускім арганізацыям.

**— Вярбоўка работнікаў на рольныя работы.** У гэтым месяцы адбудуцца тры вярбоўкі рольных работнікаў для выязду да Францыі. Вярбоўка адбудзецца: у Маладэчні — 22 жніўня, Вільні — 21 і Сьвенцянах — 23. Ад'езд да Францыі наступіць пасьля агульнай зборкі з Вільні 25 жніўня.

**— Грашовыя пасылкі да С.С.Р.Р.** На падставе новага загаду Міністэрства грашовыя пераводы і лісты да С.С.Р.Р. могуць высылацца у ва ўсіх валютах за выняткам чырвонцаў і прыймаюцца ува ўсіх паштовых канторах на ўсей тэррыторыі Польшчы.

**— Працэс беларускай сялянска-работніцкай Грамады.** На днях выдадзена аддзельнай брашурай абарончая мова адваката Казімера Петрусэвіча.

**— Вобыскі і арышты сярод Беларусаў у Вільні.** Уночы з 10 на 11 г. м. паліцыя зрабіла рэвізію у вучня Віл. Бел. Гімназіі М. Тарасюка, які займаецца падгатоўкаю вучняў у Гімназію і ў Шчаснага — Пасьвяка, які працуе у адміністрацыі газ. „Доля Працы", які быў арыштаваны.

# Палітычная хроніка.

## Сьмерць павадыра Харвацкага Народу Стэфана Радзіча.

Памёр ад ран, атрымаых у Скупшчыне ў часе стралянііны адным з паслоў, нацыянальны павадыр Харвацкага Народу Стэфан Радзіч. Скупшчына ў знак трауру перарвала паседжаньне. У зьвязку з гэтым смутным фактам, меўшым мейсца у парлямэнце, сярод Харвацкага народу пачалі разьвівацца сэпаратыстычныя імкненьні. Канфлікт між Харватамі і Сэрбамі увесь час узмацняецца і невядома, ці удасца яго зліквідаваць мірным шляхам.

## Правакацыйныя маніфэсты.

Кангрэс Маскоўскага Камінтэрну выслаў да работнікаў усіх дзяржаваў адозву, у якой заклікае „міжнародны пралетар'ят" да барацьбы проціў нібыта пагражаючай літоўска-польскае вайны, якая хутка наступіць па віне польскае буржуазіі. Гэтак сама і кангрэс ІІ. Інтэрнацыяналу у Брусэлі нападае на „літоўскую і польскую дыктатуру," заклікаючы літоўскіх і польскіх селян і работнікаў да барацьбы з існуючымі сыстэмамі урадаваньня. Шкада толькі, што гэтыя інтэрнацыяналы ня бачаць крывавай дыктатуры ў С.С.Р.Р.

---

ды і аб іншым так жыва, так разумна, што хацелася паслухаць, дзеля чаго хіба мала хто з нас запісаў дакладна аб яго гаспадарцы. Скажу наогул, што гэта гаспадарка найлепшая хіба на ўсю Пазванішчыну. Гадоўля ў яго пастаўлена на найвышэйшую ступень (кажу аб тых, якія відзелі) Мае ён каля 36 коней, бугая — жывой вагі 58 пуд., 50 кароў, каторыя даюць у сярэднім да 20 літраў малака, 32 штукі ялавізны, 64 сьвіней, 77 штук парасят, 230 штук авечак-мірыносак, з каторых настрыгаецца больш 15 фунтаў воўны ў год ад штукі. Трэба сказаць, што ў яго памагаюць гаспадарыць нават куры, прывучаныя да выбіраньня кляшчэй з авечак. Рольная гаспадарка яго не розьніцца ад гадаўлянай. Жыта з высевам 5 пудоў на дзесяціну дае да 20 і болей сьцебляў падсады і да 80 зерн у каласе, а авёс — дунайскі — з высевам 6 пудоў на дзесяціну, дае да 10—15 сьцебляў падсады і да 130 зёрн у галіне. Ураджайнасьць пшаніцы, ячменю і буракоў надзвычайная.

Пасьля надта гасьціннага прыёму ў памешканьні гаспадара, выехалі мы да мястэчка Кабылін, дзе аглядамі сярэднюю і меншую маёмасьць. Адначу тут дзьве гаспадаркі: адну з большай маёмасьці, а другую з найменшай.

I. Тычынскі Станіслаў мае каля 30 дзесяцін і лічыцца найбольшым земляўласьнікам Кабыліна. Мае ён 5 коней, 9 кароў, 14 ялавак, 1 бугая, 8 сьвіней і пробеэ. З інструманту рольнага і машынаў мае некалькі разнародных плугоў, барон, валцаў, малатарню, веялку, жняярку, сечкарню, 3 вагы, 3 брычкі і інш. Апроч хлеўнага гною, ужывае шмат штучных навозаў, дзякуючы чаму збожжа надзвычайнае. Скаціну бязмала ўвесь год трымае ў хлеве і корме чым прыходзіцца, а малочнасьць кароў у сярэднім выносе каля 10 літраў малака ў дзень.

II. Зарэмба Міхась мае 5 дзесяцін і лічыцца найменшым гаспадаром, жывушым толькі з рольніцтва. Мае ён 2 коні, 3 каровы, 3 ялоўкі і выкормлівае 7 сьвіней у год—2 для сябе і 5 на прадажу. Скаціну трымае ў хлеве і корме: „кішонкай" з бурачных лістоў і конскага зуба, сенам, канюшынай і саломай. Мае

# Карэспандэнцыі.

## Да працы, Лідчына!

Як працоўнаму чалавеку, ходзячаму па кутох Беларусі, мне часта прыходзіцца бачыць, як ня роўна жывець народ у вёсках нашае Бацькаўшчыны, як з боку гледжаньня гаспадарчага, гэтак і культурна-прасьветнага. У адных вёсках і паветах кіпіць жыцьцё, а ў другіх пануе цемра. Узяць хаця-бы, напрыклад, пав. Маладэчанскі. Там трудна знайсьці такую вёску, у каторай-бы ня было якой-небудзь культурнай установы, ці то аддзелу „Прасьветы", ці Т-ва Беларускай Школы, ці Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры.

Возьмем цяпер суседні Лідзкі павет. У Лідзкім пав. народ ужо зусім інакш жыве. Першае. што зусім бедна, а другое — што ня хоча ўнікаць у культурную працу. Узяць тыя вёскі, каторыя мне добра ведамыя і з сялянамі каторых я заводзіў гутарку, як в. в. Голдава, Вялікая Сяло, Малышы, Цьвербуты, Ігнаткаўцы, Губейкі, Вольгаўцы, Пяскі і др. Хоць-бы ў адну з гэтых вёсак пранікла беларуская газэта альбо хоць-бы адна з гэтых вёсак мела якую-небудзь асьветную, альбо гаспадарчую ўстанову апрача в. Голдава, у каторай знаходзіцца нібы-то каапэратыва і в. Ігнаткоўцы, дзе знаходзіцца Каса Стэфчыка.

Праўда, зямля ў гэтых вёсках найбольш дрэнная, сенажаці балотныя, патрэбуюць асушкі, а ворнае поля нізкае, не дае добрага ўраджаю, так што ні ў ваднага гаспадара свайго хлеба да новага не хапае. А ў такіх, каторыя ня маюць свайго кавалка зямлі, ніякім спасобам ня можна трымаць хоць-бы адну карову, дзеля таго, што калі-бы прышлося наняць кавалак сенажаці ў гаспадара маёнтку Голдава Антона Валэйкі, то ён хоча садраць скуру з жывога сяляніна: трэба скасіць, высушыць і тры вазы завясьці яму у гумно і зложыць на тарпу, а адзін воз толькі ўзяць сабе.

Сяляне названых вёсак! Ці-ж Вы ня ёсьць такія людзі, як у другіх вёсках і пав.?! Ці ні знойдзецца паміж Вамі аднаго такога чалавека, каторы-бы хоць адзін запаліў першую сярнічку да свайго роднага беларускага слова, а калі яму аднаму было-бы цяжка, то злажыўшыся ўдвох альбо ўтрох выпісалі-б сабе беларускую газэту „Грамадзянін", якая мала каштуе, а дужа прыносіць пользы на полі роднай асьветы. У ёй можна знайсьці ўсё тое, што патрэбна для сяляніна. Бо калі вы ня будзеце чытаць беларускіх газэт і ня будзеце імкнуцца да асьветнай арганізацыі, то ня можаце называць сябе сынамі Бацькаўшчыны і ня будзеця ведаць, што робіцца. З Вамі ніхто ня будзе лічыцца. Трэба ўзяцца да стойкае працы, і каб Вашыя вёскі не адставалі ад другіх. Помніце прыказку, што — „вучэньне сьвет, а нявучэньня цьма", Пастарайцеся залажыць хоць бы 2—3 аддзелы „Прасьветы", адчыніць бібліатэку-чытэльню, каб і да Вас мела магчымасьць дайсьці родная беларуская газэта і ў вольную часіну ад работы сабрацца і не глядзець, як граюць у карты, альбо скачуць, а ляпей аднаму прачытаць, а ўсім паслухаць, што робіцца ў Краі і заграніцай, бо карты і гарэлка даводзяць нас да згубы, а чытаньне газэт да асьветы. Калі мы будзем добра ведаць, што робіцца ў другіх вёсках і пав. нашае Бацькаўшчыны, то і мы

---

4 разнародныя плугі, малатарню, сечкарню, веялку, вальцы, 1 воз, брычку і іншае. Сее пераважна буракі, пшаніцу, жыта і бульбу. Дзякуючы ужываньню вялікай колькасьці штучных гнаеў і здрэнаванаму грунту ўраджай добры.

Наогул ураджайнасьць добрая, але рэзка адрозніваецца на нездрэнаваных грунтаў.

Гасьціннаясьць і начлег дало мяйсцовае „Kółko Rolnicze".

Раніцай 8 ліпня выяжджаем да места Пазнані. Тут трэба адзначыць—зоолёгічны сад, у каторым мы з прыемнасьцяй прабылі каля 4 гадзін сярод розных зьвяроў і птушак і, так званы „Люна-парк", каторы інача́й можна назваць балаган-парк. Тут пануе такі гвалт, такі гоман, што трудна бывае пачуць свайго суседа. Першую ролю адыгрывае тут электрычнасьць, каторая возе, калыша, крупе, калбоце, трасе і адным словам рухае публіку за 20 грошай па розных каруселях, каламашках, конях, калысках і інш. і ўсё гэта з аглушаючай аўтоматычнай музыкай. Далей ідуць розныя тэатрыкі, цыркі, спорты, абманкі і розныя раўрыўкі.

Наогул Пазнань—места чыстае і па руху досыць спакойнае. Тарунь-жа, куды мы выехалі 9 ліпня, можна адзначыць як места вайсковае і цікавасьцямі яго зьяўляюцца хіба толькі украпленьні, як цяперашнія, так і даўнейшыя.

10 ліпня з Торуня выехалі мы да Хэлмжы. Тут мы абгледзілі таго патрабіцеля цукровых буракоў, можна сказаць, з палавіны Польшчы—гэта агромную цукровую фабрыку. Па апавяданьню гэта цукроўня канкуруе з найбольшай цукраварняй ў Эўропе, але яшчэ лічыцца другой цукроўняй на ўсей Эўропе. З Хэлмжы мы выехалі для агляду нескалькіх маёнткаў, але, ці па чыей віне, ці з браку часу, аб'ехалі іх праездам на конях і толькі. Праўда ўраджай надзвычайны, але як сеяна, як угноена—ніхто не сказаў. Перачачаваўшы па 2—3 у гаспадароў, выехалі праз Хэлму ў аколіцу вёскі Плужніцы.

Трэба сказаць, што ў Хэлмжы мы злучыліся з экскурсіяй Крэменецкага пав. у ліку 33 асоб і такой вялікай кучай людзей ня можна было ўсім пачуць, як талкаваў гаспадар. Апроч таго кожны быў ужо змучаны, дзеля чаго

зможам ісьці іхнімі сьлядамі і калі-небудзь дойдзем да такога жыцьця, як жывуць людзі ў заходня-эўропэйскіх старонках.

3.VIII.1928 г. **Рабочы.**

## З жыцьця нашай моладзі.

У нядзелю 15 ліпня г.г. група моладзі вёскі Капланавічы, Нясьвіскага пав. ладзіла тэатральнае прадстаўленьне. Ставілі: „Лекары і лекі“ і „Пасланца“. Неяк і мне прышлося быць на гэтым прадстаўленьні. Вялізарная саля „Domu Ludowego“ была паўнюткая глядзельнікаў. Маладыя артысты відна стараліся не на жарты, калі бязупынныя воплескі і „біс“ раздаваліся ўвесь час ігры на сцэне

Не магу прайсьці моўчкі міма ігры маладой аматаркі Гэлі Алексейчук, якая у „Лекары і Лекі“ выконавала роль маці, а ў „Пасланцу“ роль маладой кухаркі. Азначанная асоба безпрэчна мае талянт да сцэны і трэба пажадаць, каб свае здольнасьці не губіла ў шэрым, штодзенным сялянскім жыцьці, а ў меру магчымасьці развівала-б і надалей. Добра гралі і іншыя аматары, як: Лукашэвіч, Алексейчук, Ганна Алексейчук, якія гралі на сцэне першы раз. Адзначаўся мастацкай ігрой і Р. Матусэвіч.

Агулам кажучы, было-б вельмі прыемна, каб аматары вёскі Капланавічы не пакідалі сваей карыснай працы і надалей, пашыраючы родную беларускую культуру.

Асабліваю падзяку трэба аддаць п. Г. Лобко, настаўніку мяйсцовай пачатковай школы, які ня гледзячы ні на якія перашкоды (а гэткіх перашкод істнуе ажно занадта), не пакідае сваей тэатральнай працы.

Разам з гэтым я хачу адцеміць і адзін прыкры факт з жыцьця капланаўскай моладзі. Аказваецца, што аграмадная большасьць вясковай моладзі адносіцца неяк пасыўна да культурных пачынаньняў свайго настаўніка п. Лобко. Той дом людовы, які стаіць на капланаўскай зямлі дзякуючы вылучна стараньням п. Лобко (адзін Dom Ludowy на ўвесь Нясьвіскі пав.) і які бязумоўна будзе разсяўнікам беларускай культуры, аказваецца мала іх абыходзіць. Карты і гарэлка яшчэ не зыйшлі з іх абыходку. Так-жа на гэтым прадстаўленьні шмат было хлопцаў, але не сваіх капланаўцаў, а чужых, і з вёсак далёка ляжачых ад Капланавіч.

Гэты сумны і прыкры факт з жыцьця капланаўскай моладзі я думаю мусіць зыйсьці з дарогі прад сьветачам культуры і асьветы. Між іншым хачу падкрэсьліць, што на гэтым прадстаўленьні было шмат прадстаўнікоў валаснай адміністрацыі, паліцыі, вучыцельства, шляхты, а гэта паказвае, што нават і польскія ўрадоўцы цікавяцца белерускаю вечарынаю.

Закончылася прадстаўленьне скокамі пад гукі сымфонічнай аркестры з Клецка.

**Глядзельнік.**

---

✝

З глыбокім жалям павядамляю сваіх знаёмых аб сьмерці сваей жонкі, якая пасьля доўгай хваробы на сухоты 3 жніўня а гадзіне 11.30 рана кончыла сваё жыцьцё, пакінуўшы 3 месячнага сынка.

**З жалям А. Мікірэй.**

---

і запісаў я надта мала з усяго агледжанага ў гэты дзень. Аб маёнтку Орлова, поля каторага мы аглядалі, скажу, што гадаўляная гаспадарка пастаўлена надта добра, асабліва стайня. Аб 12-дзесяціннай гаспадарцы Уладыслава Прайса ў вёсцы Острово скажу, што мае 3 каней, 10 кароў і 8 сьвіней. Карова ў сярэднім дае каля 12—15 літраў малака ў дзень, а трымаецца скаціна круглы год у хлеве, кормячы выжымкамі з буракоў, канюшынай і саломай. Апроч розных плугоў, плужкоў і інш, мае жняярку, машыну да выбіраньня бульбы, сеялку, сячкарню, веялку і машыну да рэзкі буракоў. Ураджайнасьць надта добрая, асабліва буракі, каторых сее каля палавіны свайго поля і каторыя даюць найбольшую даходнасьць.

У Плужніцы трэба адзначыць гаспадарку тамтэйшага ксяндза. Касьцельнай зямлі маецца каля 60 дз. Гаспадара на гэтай зямлі сам ксёндз і мае 11 каней, 6 жарабят, 22 каровы і 17 штук ялавізны. Апроч розных удасканальнень і улепшаньняў у гаспадарцы рольнай ў яго адыгрывае вялікую ролю электрычнасьць, дзякуючы каторай гэты ксёндз выйграе і на працы і на кішэні, бо, напрыклад, на пампаваньне 1500 літраў вады ў вадазбёрнік, адкуль па трубах вада ідзе куды трэба, каштуе толькі 75 грашаў. Адным словам гаспадарка вядзецца ўмела і дзе толькі можна, зужыта электрычнасьць.

Далей заслужвае ўвагі гаспадарка Валентага, каторы як інваліда атрымаў $4^1/_2$ дзесяціны зямлі і 5000 зл. запамогі на гаспадарку. Цяпер ён мае 2 кані, 3 каровы і 4 сьвіней, але выкормлівае ў год каля 8 штук. За малако месячна бярэ каля 150 зл. На сваім полі засевае каля 2 дзес. буракоў, $^3/_4$ дз. пшаніцы, 1 дз. жыта, $^1/_2$ дз. бульбы і на астатку канюшыну. Пад усё гэта, апроч хлеўнага гною, высявае яшчэ 18 пуд. сялітры чылійскай, 6 пуд. суперфасфату і 6 пуд. азатняку, дзякуючы чаму і ўраджай у яго надзвычайны.

Па паўдніса ст. Плужніца выяжджаем да места Грудзёнца, дзе на заўтра, г. зн. 12 ліпня, агледзілі фабрыку машынаў рольных

## УСЯЧЫНА

### Цікавыя лічбы.

„Wiadomości Statystyczne" падаюць, што ў 1927 г. У Польшчы нарадзілася 953,000 новых істотаў-грамадзян Польшчы. У гэтым самым годзе памерла 429,000 чалавек. Гэткім чынам Польшча ў адносінах узросту насельніцтва зрймае першае мейсца ў Эўропе, а затым ідуць— Італія, Няменччына, Вяліка-Брытанія, Гішпанія, Чэха-Славакія і на самым канцы Францыя.

Гэта пацяшаючыя лічбы.

А вось сумныя лічбы — статыстыка праступленьняў, асабліва фальшнваманэтчыкаў за фальшаваньне грошаў было судовых справ: у 1923 г. — 108, 1924 г. — 256, 1925 — 531, 1926 г. — 17,591 і 1927 г. — 43,083.

У галіне забойства, дракі, грабяжу, падпаленьня, канякрадства, кражы са ўзломам, і г. д. лічбы прадстаўляюцца ў наступным відзе: 1925 г. — 28,601 выпадак, 1926 г. — 34,082 і 1927 г. — 37,028 выпадкі.

## Клецкая Беларуская Гімназія

### Прыродна-матэмат. тыпу з прыгатаваўчай клясай.

Дзеля таго, што прыймо новых вучняў у гімназію ўвосені можа адбыцца толькі з асобнага дазволу для кожнага кандыдата з боку куратарыюму, Дырэкцыя Гімназіі прапануе ўсім бацьком і апякуном, якія маюць паслаць у надходзячым 1928-29 школьным годзе сваіх дзяцей у Клецкую Беларускую Гімназію, падаваць у Дырэкцыю Гімназіі просьбы аб тым загадзя, найпазьней да 20-га жніўня, каб Дырэкцыя мела час скіраваць іх у куратарыюм і да пачатку экзаменаў мела вымаганы дазвол.

Паданыя позна просьбы ня будуць уважаны і дзеці застануцца няпрынятымі ў гімназію.

Да просьбаў трэба далучаць:

1. Мэтрыку аб нараджэньні вучня;
2. Пасьведчаньне доктара аб стане здароўя і прышчэпе воспы;
3. Пасьведчаньне аб адукацыі, калі кандыдат да гэтага вучыўся ў якой школе.

Просьбы аб залічэньні дзяцей у прыгатаваўчую клясу будуць прыймацца да 1-га верасьня.

Пры гімназіі істнуе інтэрнат для хлапцоў, а з пачатку школьнага году мае быць арганізаваны інтэрнат і для дзяўчат.

**Дырэкцыя Гімназіі.**

## Паштовая скрынка.

С. Белайц. Газэта Вам пасылаецца. Здзіўляны, што не атрымліваеце. Апошняе апавяданьне ня зьмешчана дзеля нестачы месца.

К. С.— Пав. Валожынскі. Матэр'ял атрымалі Тое, што падойдзе да „Бел. Раднага", будзе надрукована. Аб Паўлюкевічу і яговых кумпанох годзі ўжо пісаць — абрыдла.

С. Яцыновічу — газэта Вам высылаецца акуратна. Карэспандэнцыі прысылайце.

## Кутох жартаў і сьмеху.

### Заядлы п'яніца.

Рыгор, бойся ты Бога. Гэта-ж ізноў ты п'яны. Ці-ж ты ня чуў, што кожная чарка гарэлкі ўкарочывае чалавеку жыцьцё на тры гады?

А як-жа, ведаю. І я на'т аблічыў, што мяне ўжо дзесяць гадоў няма на сьвеце.

### Неспагадны.

Адвакат: Каб я мог цябе бараніць, то павінен добра ведаць, ці ўсё тое, што сказаў, ёсьць праўда ў справе тэй крадзежы.

Абвінавачаны: Усё, пане адвакат, апрача таго, дзе схаваў тыя грошы, каторыя заставіў для сябе.

---

„Унія", дзе працуе каля 1000 рабочых, местовую бойню, і рызінавую фабрыку, дзе працуе каля 4.400 рабочых, а ў ночы выяжджаем праз вольнае места Гданск да Гдыні. Там у першы раз прышлося пабачыць мне мора, каторае ачаравала мяне сваім выглядам і неабходнасьцю. Самы порт Гдыня, як відаць, калісьці быў досыць пустынны бераг, але цяпер разбудоўваецца скорым тэмпам, што відаць з тэй дарагоўлі прыбярэжнай зямлі, за каторую плацяць да 15 даляраў за квадратовы мэтр.

Тое самае робіцца і на паўвостраве Гэлі, на каторым жылі толькі рыбакі. З Гэлі, куды мы пераехалі караблём, з-за браку часу выехалі да маёнтку Гура, пав. Моўскаго. Але ў гаспадарцы рольнай розніца з нашайтут надта малая. Гаспадарка-ж гадаўляная пастаўлена тут на досыць высокую ступень, бо каля палавіны зямлі ёсьць сенакосы. Доказам высокай гадаўлянай гаспадаркі могуць служыць 10 месячныя кабаны жывой вагі 9—10 пудоў і бугай 20 месяцаў — 45 пуд. Другім доказам гэтага можа служыць гаспадар Крэут Клемэнт, каторы ад 8 кароў за малако мае 500 зл. даходу ў месяц.

Адгэтуль без астаноўкі выехалі мы да Вільні, куды і прыбылі 15 ліпня вечарам.

На заканчэньне трэба сказаць, што нас, як відаць, дык вазілі толькі па абразцовых гаспадарках, але іначай і быць не магло. Трэба было паказаць лепшае, а горшаго дык і ў нас ёсьць досыць. Трэба таксама сказаць, што і ў нас многае з відзеннаго намі магчыма да зрабеньня, але на гэта патрэбна сьвядомасьць, каторай у нас яшчэ няма і шырокай урадавай дапамогі, як грашовай, так і тэхнічнай.

*Экскурсант.*

# СЯНЬНЯ АДКРЫЦЬЦЕ
## ПЕРШАГА
# ПАУНОЧНАГА КІРМАШУ
## і РАЛЬНІЧА-ПРАМЫСЛОВАЕ ВЫСТАУКІ




## У ВІЛЬНІ

**18-VIII 9-IX. 28 г.**




# СТАНІСЛАЎ СТОБЕРСКІ

Вільня, вул. Міцкевіча 27.

## Бюро Тэхнічна-Гандлёвае і інжэнерных работ.



Вадзяныя турбіны сыстэмы Франціса. Поўнае абарудаваньне млыноў і крупярняў. Пляны, праэкты і калькуляцыя на добрых ульговых варунках. Нівэліроўка рэчак і вадзяной сілы. Фабрычны склад краёвых млынарскіх машынаў і прадстаўніцтва заграгранічных фірмаў. Лёкомобілі, маторы і інсталяцыя электрычнага асьвятленьня.



Рэдактар-Выдавец Т. ВЕРНІКОЎСКІ. Бел. Друкарня ім. Фр. Скарыны—Вільня, Людвісарская 1